# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 27 (1271) ГОД XXV БЕЛАСТОК 6 ЛІПЕНЯ 1980 г. ЦАНА 2 ЗЛ.


КРАЯЗНАЎЧЫ СЛОЎНІК

# ВАНЕВА

Спазнаць гэтую вёсачку, — гэта глянуць на тую старонку нашай гісторыі, куды, на жаль, не часта трапляе наш зрок.

Вядомы гісторык Падлясся Е. Віснеўскі ў артыкуле „Нарва“ ў „Слоўніку славянскіх старажытнасцей“, між іншым, піша, што з X стагоддзя гэтыя землі належаць да князёў Кіеўскай Русі і „з іх панаваннем звязана паўстанне на Нарве крэпасці ў Суражы, а на Белай — Бельска і, магчыма, крэпасці каля мясцовасці Нарва“. У трох кіламетрах на поўдзень ад Ванева, на левым, стромкім беразе ракі Нарвы па сённяшні дзень узвышаюцца салідныя рэшткі якраз гэтай крэпасці. Іх тут называюць Курганам. А на самай справе гэта два вялікія (папярочнікам у 100-200 метраў) гародзішчы, відаць, вышэйшае з іх — пасля крэпасці, ніжэйшае — пасля рамесніцка-гандлёвага падгароддзя. Вядома, такі значны ваенна-гаспадарчы асяродак не мог існаваць без базы, якой былі густа рассыпаныя па ўсёй ваколіцы паселішчы. Якаясьці сувязь злучала іх з групай пахавальных курганоў, што параскіданы ў некалькіх кіламетрах на ўсход ад гарадзішчаў у цяперашняй Лядскай пушчы. Той жа Е. Віснеўскі лічыць, што „літоўскія наезды ў XIII і XIV стагоддзях (галоўным чынам у гадах 1255-69 і 1324) прынеслі вынішчэнне насельніцтва над Нарвай і заняпад большасці гарадоў“.



*Рэштка колішняй кладкі на Нарве каля Кургана выглядам сваім напамінае існаваўшую тут прыстань у X-XIV стагоддзі.*

Як-ніяк, але ў ванеўцаў яшчэ і цяпер захавалася свядомасць старажытнасці свайго тут радаводу. Якраз праяўленнем гэтага з'яўляецца легенда пра пачатак Ванева. Яна кажа, што першы ваневец „сядзеў на Грудкові за Бродом“, а Грудок той абшарам каля 40 га (або інакш колішніх дзве валокі) знаходзіўся ў міжрэччы рачулкі Рудні (правы прыток Нарвы) і ручая Ванеўка, ад якога і займела назву сяло. Пасля Ванеўкі застаўся цяпер толькі лог, на Грудзе лічыцца найлепшая зямля з усяго сяла. Ці трэба яшчэ больш доказаў, што Ванева „сядзіць“ на месцы дрыгавіцкага селішча з X-XIV стагоддзяў? Але пачакайма, пакуль археолагі зоймуцца Курганом.

У пісьмовых помніках Ванева ўпершыню ўпамінаецца ў 1560 г. як „село места Нарві“ і гэты факт звязаны з тым, што ў 1514 г. вялікі князь літоўскі і кароль польскі Зыгмунт I загадаў ваяводу троцкаму Альбрэхту Гаштольду (так, таму самаму, што потым прымаў удзел у рэдагаванні на беларускай мове „Літоўскага статута“ з 1529 г.) заснаваць на Вялікай Дарозе з Каралеўства Польскага ў Вялікае княства Літоўскае горад, у якім знайшлі б каранаваныя асобы ды іншыя „путнікі“ адпаведны іх вымаганням прыпынак, начлег, адпачынак і нават уцеху. Відаць Гаштольдавы падданыя не спалі ў шапку, калі да 1529 г. Нарва стала такой значнай мясцовасцю, што было можна прызнаць ёй магдэбургскае права на самакіраванне. Яго пацвердзілі каралі Зыгмунт Аўгуст у 1555 г. і Стэфан Баторый у 1576 г. I з гэтай апошняй датай трэба, відаць, звязваць пачатак цяперашняга Ванева. Справа ў тым, што ў „Люстрацыі“ ваяводства Падляшскага“ ад 1576 г. знаходзім: „На Ванева валокаў 13, з якіх нічога не плацяць (у каралеўскую казну

(Працяг на стар. 4)



БЕЛАРУСКАЯ ПЕСНЯ-80

„Дзявочыя ноткі“ — калектыў бельскага белліцэя. На сёлетнім цэнтральным аглядзе заняў II месца ў катэгорыі сучаснай песні. Фота М. Шаховіча.

ПАВУЧЫЦЦА Ў СУСЕДЗЯЎ




Амаль за парогам плыве рака Нурэц. Сярод высокіх берагоў, упрыгожаных старымі вербамі, жывапіснай дугой дружалюбна набліжаецца яна да панадворка **Яна Шафрана** з вёскі **Маяравізна** ў **Бранскай** гміне, прыносіць яму весткі з шырокага свету і цячэ далей. Толькі любавацца. Але прыехалі мы туды не дзеля краявідаў.

— Ён у нас запісаны пад першым нумарам як спецыяліст па гадоўлі малочных кароў, — гаворыць начальнік гміны **Язэп Касінскі,** паясняючы гэтым самым, чаму якраз мы разам з іншымі сялянамі-жывёлаводамі наведалі гэтага гаспадара.

А ён са сваім бацькам, ужо падстарэлым, вітаюць гасцей ля брамы, і Ян Шафран неяк заклапочана звяртаецца да начальніка гміны:

— Пане начальнік, куды найперш захочаце: у хату ці ў абору?

— Хата ў нас старэнькая, — дабаўляе бацька Яна Шафрана. — Яшчэ майго бацькі. Я век у ёй пражыў і неяк не сабраўся, каб новую хату пабудаваць. Можа сын мяне ў гэтым выручыць.

Сапраўды, жыллёвая сядзіба сялянскага роду Шафранаў, што размясціўся на беразе рэчкі Нурэц, займаючы калісьці ўчастак зямлі, з якога зараз засталося 14 з лішнім гектараў зямельных угоддзяў ды яшчэ крыху лесу, вады і балота, гэтая сяліба зараз носіць на сабе прызнакі няўмольнага часу. Асабліва пацярпелі рэзаныя ў дрэве ўпрыгожванні навугольнікаў, абрамаванні вокнаў і шчытоў. Даўнейшыя лілеі, розы ды іншыя кветкі, так характэрныя для народных умельцаў нашай Беласточчыны, затрацілі ўжо сваю першапачатковую прыгажосць, паддаліся знішчальнаму ўплыву часу.

Малады гаспадар, першы спецыяліст па жывёлагадоўлі ў Бранскай гміне, аж надта выразна стараецца прыкрыць свой беспадстаўны сорам перад уладай ды іншымі сялянамі, што ў яго яшчэ драўляная дзедавая хата, і гаворыць, што ўжо падрыхтаваўся да пабудовы дома „як след“, значыць, мураванага, двухпавярховага, з усімі выгодамі сучаснай тэхнікі.

— Я можа ўжо і распачаў бы гэтую пабудову, — кажа Ян Шафран, — але найперш хацеў паставіць на высокім узроўні сваю жывёлагадоўлю, а акрамя таго, тут у мяне на панадворку вельмі цесна, няма дзе разгарнуцца. Вазьміце гэта пад увагу, пане начальнік, — звяртаецца ён да Язэпа Касінскага, які дыпламатычна, нібы пацвярджальна, ківае галавой, што *„так“*, што каму як каму, а першаму ў гміне спецыялісту заўжды пойдуць *„на руку“*, а зараз хай ужо паказвае гасцям сваё жывёлагадоўчае багацце, хай усе ўбачаць, чаго можна дабіцца, калі хто хоча працаваць і рукамі, і галавой.

Схільнасць да гадоўлі малочных кароў у сям'і Шафранаў пераходзіла ў спадчыну з пакалення на пакаленне, але ў такіх маштабах, як Ян Шафран, яшчэ гэтай справай ніхто тут не займаўся. На 17-гектаровай гаспадарцы трымае ён 30 штук рагатай жывёлы. Хто любіць рахункі, хай сабе пералічыць, які паказчык для яго гаспадаркі выходзіць на сто гектараў зямельных угоддзяў. Я толькі падкажу, што **на 1 гектар у Яна Шафрана выпадае па дзве штукі.** Калі б гэты вынік мерыць намерамі нашых кіраўнікоў сельскагаспадарчай вытворчасці на паасобныя пяцігадовыя планы развіцця жывёлагадоўлі ў Беластоцкім ваяводстве, дык Ян Шафран з цяперашнімі сваімі дасягненнямі апынуўся б ужо ў пачатку XXI стагоддзя.

— Пачаў я, — паясняе ён сваім гасцям, — ад разбудовы абору. Было гэта ў 1976 годзе. Праект падрыхтаваў інжынер **Міхал Іванчук** з Бельскага аддзела Ваяводскага цэнтра сельскагаспадарчага прагрэсу, а ваяводскае праўленне сельскагаспадарчых капіталаўкладанняў дапамагло раздабыць неабходныя матэрыялы.

(Працяг на стар. 4)

## БЕЛАРУСКІЯ КНІГІ

У кнігарні імпартных выданняў у Беластоку можна набыць наступныя кнігі на беларускай мове:

**Бандарына З.,** Ой, рана на Івана, 1979, стар. 160, цана 6 зл.

Цікавая аповесць пра маленства і юнацтва Янкі Купалы, пра яго першыя літаратурныя спробы. Адрасуецца моладзі сярэдняга школьнага ўзросту.

**Хомчанка В.,** Выбраныя творы ў двух тамах, 1979, I/II стар. 940, цана 62 зл.

Двухтомнік склалі лепшыя творы пісьменніка, між іншым, аповесць „Чырвоныя хвалі“, а таксама апавяданні і гумарэскі.

**Гурскі Г.,** Лясныя салдаты, 1979, стар. 552, цана 42 зл.

У гэты зборнік прозы старэйшага беларускага пісьменніка, між іншым, увайшла аднайменная аповесць, напісаная па гарачых слядах гістарычных падзей, бо ў 1945 годзе, а таксама апавяданні, у большасці прысвечаныя таксама партызанскаму руху ў апошнюю вайну.

**Кудравец А.,** На балоце скрыпелі драчы, 1979, стар. 288, цана 11 зл.

Зборнік апавяданняў, заснаваных на ўласным жыццёвым вопыце пісьменніка, дзяцінства і юнацтва якога выпалі на гады вайны і пасляваеннага нялёгкага жыцця.

Анталогія беларускай савецкай песні, 1979, цана 86 зл.

Выданне склалі мелодыі, што паўсталі на працягу шасці дзесяцігоддзяў (1917-1977).

Кнігарня высылае кнігі за паштовым залічэннем. Запатрабаванні накіроўвайце па адрасу: „Dom Książki”, 15-089 Białystok, ul. Kilińskiego 10.

**(мг)**

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### АХОЎВАЕМ ПРЫРОДУ

Больш чым паўмільёна чалавек значацца ў радах Гомельскага абласнога Таварыства аховы прыроды. Толькі ў мінулым годзе сіламі грамадскасці ў вобласці закладзена 60 паркаў, 136 сквераў, 48 гектараў гадавальнікаў, уздоўж дарог і вуліц высаджаны тысячы дрэў. На чатырох тысячах гектараў замацаваны пяскі, лагчыны і берагі рэк.

### КАЛЯНДАР

**565 гадоў назад**

6.7.1415 быў спалены Ян Гус, мысліцель, заснавальнік і ідэолаг ранняй чэшскай Рэфармацыі.

**445 гадоў назад**

7.7.1535 пам. Т. Мор, англійскі мысліцель, заснавальнік утапійнага сацыялізма.

**75 гадоў назад**

6.7.1905 нар. П. Глебка, беларускі савецкі паэт.

**30 гадоў назад**

6.7.1950 у Згажэльцы быў падпісан дагавор паміж Польшчай і ГДР аб вызначэнні сталай польска-нямецкай граніцы на Одры і Нысе.

Niwa

BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY

ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE”
Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego

ADRES REDAKCJI
Niwa
ul. Wesołowskiego 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 2-32-41

Wydawca:
RSW „Prasa-Książka-Ruch”, Kombinat Wydawniczo-Kolportażowy w Białymstoku. Prenumeratę na kraj przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch” oraz urzędy pocztowe i doręczyciele. Cena prenumeraty rocznej 104 zł. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę, która jest o 50% droższa od prenumeraty krajowej, przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch”. Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw, ul. Towarowa 23, 00-950 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie nr 1153-201045-139-11.

B.Z.Graf. Zam. 1071. Nakład 7.700 I-2



## IX З'ЕЗД БГКТ

### СА СПРАВАЗДАЧЫ ГАЛОЎНАЙ РЭВІЗІЙНАЙ КАМІСІІ

Са справаздачай выступіў **М. Хмялеўскі** — старшыня Галоўнай рэвізійнай камісіі. У ёй сцвярджалася, што ГП БГКТ за мінулыя чатыры гады дабілася вялікіх дасягненняў, а ўсе формы яго дзейнасці служаць умацаванню нацыянальнай годнасці беларусаў у Польшчы і пацвярджаюць, што наша Айчына — Народная Польшча стварыла беларускай нацыянальнай меншасці ўсе магчымасці духоўнага развіцця. Адначасова ў справаздачы камісія звярнула ўвагу з'езда на шэраг недахопаў у працы нашай арганізацыі.

Дагэтуляшняя колькасць 6298 членаў БГКТ і аплочванне імі членскіх складчын усяго ў 50 прац. — з'явы надта нездавальняючыя. Іх прычыну камісія бачыць у недастатковай працы штатных працаўнікоў ГП і актывістаў з гурткамі БГКТ. Сходы гурткоў абслугоўваюцца нашым актывам у асноўным раз у чатыры гады, падчас справаздачнай кампаніі, калі ўжо неабходна правесці сход і выбраць дэлегатаў на чарговы з'езд БГКТ. Актывісты неахвотна едуць у гурткі таму, што не маюць з чым з'яўляцца ў іх. У гурткі трэба прыязджаць з гутаркамі, дакладамі пра беларускую культуру, літаратуру, фальклор, выдатных людзей у гісторыі беларускага народа і на іншыя тэмы па беларусазнаўству. Такой працы чакаюць людзі.

Выбарныя органы нашага таварыства: Галоўнае праўленне і яго Прэзідыум працавалі належна. За чатыры гады адбылося 26 пасяджэнняў Прэзідыума і 9 пленарных пасяджэнняў Галоўнага праўлення, на якіх разглядаліся асноўныя справы дзейнасці нашай арганізацыі. У той жа час некаторыя члены Прэзідыума і значная колькасць членаў Галоўнага праўлення без уважлівых прычын не прысутнічала на больш чым палавіне пасяджэнняў. Гэта сведчыць пра іх абыякавыя адносіны да спраў нашай арганізацыі, незаангажаванасць і неапраўданасць іх выбару. Шкада, што Прэзідыум ГП не выкарыстаў правамоцтваў, дадзеных яму статутам БГКТ, і не адклікаў гэтых людзей, а на іх месца не выбраў новых, актыўных і ахвочых да працы ў нашым таварыстве.

Адной з найважнейшых спраў для БГКТ з'яўляецца навучанне роднай беларускай мове. На гэта наша арганізацыя звяртала сваю ўвагу, але замала. Прэзідыум ГП БГКТ павінен шырэй і ўсебакова супрацоўнічаць з гміннымі школьнымі дырэкцыямі. Неабходна ўзнавіць дзейнасць у школах гурткоў зацікаўлення беларускай праблематыкай, таксама ў тых школах, дзе няма навучання беларускай мовы. Такія гурткі могуць сыграць важную ролю ў пашырэнні ведаў і прывіванні пашаны да беларускай культуры.

Зусім прыгасла дзейнасць навуковага гуртка пры БГКТ і яна цалкам занікне, калі не будзе магчымасці выдаваць „Навуковыя зборнікі“. Замала таксама выходзіць зборнікаў твораў нашых аўтараў з „Белавежы“. Прычына ўсяго гэтага — вельмі абмежаваныя фінансавыя сродкі нашай арганізацыі.

Два гады таму назад у БГКТ быў праведзены вельмі ўдалы конкурс народных музыкаў, але ў наступных гадах яго чамусьці ўжо не арганізавалі. Неабходна за яго правядзенне ўзяцца настойлівей. Фінальныя агляды ўсіх конкурсаў БГКТ („Беларуская песня“, тэатральны, чытальніцкі і інш.) павінны адбывацца толькі ў Беластоку, бо тут найбольшае беларускае асяроддзе. Неабходна паклапаціцца пра лепшы арганізацыйны ўзровень іх правядзення.

Дзяржаўная датацыя нашаму таварыству на працягу мінулых 4 год у сярэднім складала 1 мільён 250 тысяч злотых у год. БГКТ выпрацоўвала само ад 261 тысяч да 274 тысяч злотых у год даходу. З гэтага амаль 700 тысяч выдаткавалася на заработную плату штатным працаўнікам, каля 100 тысяч злотых было заплачана за друк „Беларускага календара“. Таму на іншыя формы дзейнасці БГКТ грошай было вельмі мала. Увесь час выдаткаванне грошай адбываецца вельмі ашчадна, часам гэта даводзіць да невыкарыстоўвання сродкаў і да гэтага ніяк нельга дапускаць.



*М. Хмялеўскі — старшыня Галоўнай рэвізійнай камісіі.*

*Фота З. Лянкевіча.*

Камісія ўнесла прапановы пад развагу з'езду і новаму Галоўнаму праўленню, між іншым: пра неабходнасць абнавіць арганізацыйную структуру нашага таварыства, увесці калектыўнае членства БГКТ; падрыхтаваць урачыстае святкаванне 25 гадавіны заснавання БГКТ і „Нівы“ і інш.

Галоўная рэвізійная камісія ў мінулыя 4 гады не мела патрэбы выступаць да Галоўнага праўлення з якой-небудзь засцярогай, бо не было няправільнасці ў яго працы ці парушэнняў статута БГКТ.

Беручы пад увагу ўсе аспекты дзейнасці Галоўнага праўлення і яго Прэзідыума, Галоўная рэвізійная камісія запрапанавала з'езду адобрыць дзейнасць гэтых органаў нашага таварыства за чатыры мінулыя гады.

З'езд прапанову аднагалосна прыняў.

### НАЙЛЕПШЫЯ ДАСТАЎЦЫ МАЛАКА

Як паінфармаваў нас кіраўнік пункта скупкі малака ў Дубічах Царкоўных Рыгор Яканюк, тут цяпер штодзень збіраецца 2200-2300 літраў малака (у ім у сярэднім 3,5% тлушчу). Прывозяць сюды малако сяляне з Дубіч Царкоўных, Чэхаў Арлянскіх, Руткі і Істока. Найбольш малака дастаўляюць Уладзімір Алесюк з Дубічаў Царкоўных, Пётр Несцярук з Чэхаў Арлянскіх, Макар Ляўчук з Руткі, Рыгор Герцун, Анна Кердэлевіч і Сцяпан Плева — усе яны з Істока.

Рыгор Яканюк працуе злеўнярам ужо амаль пяць гадоў.

**(яц)**

**ПРАЗ ТЫДЗЕНЬ У „НІВЕ“**

**Фэст у Семяноўцы • Жыццё Аляксандра Сідарука • З дыскусіі на IX з'ездзе БГКТ • У гасцях у нас беларускія пісьменнікі • Запраданне душы • Майстры драўляных вырабаў • Паверыць у жыццё • Вылечылі • Весткі з Чаромхі, Белавежы, Дубіч Царкоўных, Бельска, Шудзялава, Гайнаўкі, Крываціч • Калі сніцца прыбіральня • Кастусь збіраецца на рэчку • Песня „Wschód słońca w stadninie koni”.**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 6 VII** — 7.00 TTR — Zajęcia wakac. sem II. 7.40 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada. 9.00 Kino Teleranka. 10.10 Antena. 10.35 Monografia wielkiej budowy. 11.25 Dziennik. 11.40 Rolnicze rozmowy. 12.10 Koncert WOSPRiT. 13.15 Polska leży nad Bałtykiem — teletur. 14.05 Los. Dużego Lot. 14.20 Koncert życzeń. 15.00 Pan majster — bułg. kom. film. 16.05 G. Verdi „Falstaff” — cz. 3. 17.05 Tele-Echo. 18.05 Magia — pr. rozr. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Wichrowe wzgórza — film fab. 21.10 Piosenki z tamtych lat — pr. rozr. 21.55 Sportowa niedziela. 22.15 Co dalej laureacie — P. Milewski.

**Poniedziałek 7 VII** — 9.00 Teleferie. 15.20 Pr. dnia. 15.25 NURT — Naucz. począt. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 17.25 Solo — rep. 17.45 Goła beczka — radz. film fab. 18.50 Dobranoc. 19.00 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr TV — M. Gorki „Na dnie”. 21.50 Album z piosenkami. 22.20 Antyczny świat prof. Krawczuka. 22.50 Dziennik.

**Wtorek 8 VII** — 9.00 Kino Teleferii „Stawiam na Tolka Banana”. 15.20 Pr. dnia. 15.25 Klub Seniora. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 16.55 Klinika zdrowego człowieka. 17.25 Sonda. 19.00 Królik Bugs przedst. — film anim. 18.20 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Wycieczka na Pragę — film rozr. 19.30 Dziennik. 20.10 Dobry wojak Szwejk — odc. II „Melduję posłusznie” — czech. film fab. 21.45 Ex Libris. 22.05 Koncerty Ratuszowe. 22.30 Poglądy. 22.45 Dziennik.

**Środa 9 VII** — 9.00 Teleferie. 15.20 Pr. dnia. 15.25 NURT — Naucz. począt. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 16.55 Los. Małego Lot. 17.05 Dom i my. 17.20 Skarbiec. 17.45 Od melodii do melodii — pr. rozr. 18.10 Małe kino. 18.15 Mam pomysł. 18.50 Dobranoc. 19.00 Ptasi raj na Wyspie Funka — film dok. 19.30 Dziennik. 20.10 Ziemia drży — włoski film fab. 22.25 Dziennik. 23.10 Camerata.

**Czwartek 10 VII** — 9.00 Teleferie. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. 17.45 Patrol. 18.10 Studio Młodych. 18.40 Wystąpienie amb. Mong. Rep. Lud. 18.50 Dobranoc. 19.00 Lekarz radzi. 19.10 Turystyka i wypoczynek. 19.30 Dziennik. 20.10 Komisarz Maigret prowadzi śledztwo — odc. pt. „Maigret i handlarz win” — film TV fr. 21.50 Pegaz. 22.40 Dziennik. 22.55 Testament Zygmunta Augusta.

**Piątek 11 VII** — 9.00 Teleferie — Cudaczek oraz wakacyjne kino najmł. 15.20 Pr. dnia. 15.25 NURT — Naucz. począt. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Wakacje w kręgu rodziny. III Przeglad Programów Rozrywkowych Interwizji — Sopot 79. 16.55 Człowieczek — pr. balet. TV CSRS. 17.30 Daleko od szosy — film TP. 18.50 Dobranoc. 19.00 Magazyn bezp. ruchu drog. 19.30 Dziennik. 20.10 XIX Festiwal Piosenki Żołnierskiej — Kołobrzeg 80 — Melodie bratnich krajów i armii. 21.45 Konkrety. 22.15 W Teatrze NGORONGORO — film dok. TV fr. 22.40 Wartości życia — rozmowa profesorów. 22.55 Dziennik.

**Sobota 12 VII** — 15.25 Pr. dnia. 15.30 Militaria, obronność, now. W hetmańskim grodzie. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Music-Hall — pr. TV NRD. 17.30 Międzynar. rajd samochod. 18.20 Studio Młodych. 18.50 Dobranoc. 19.00 Świat, który nie może zaginąć — odc. pt. Bogactwo wód zatoki Kalifornijskiej — film dok. 19.30 Dziennik. 20.10 Pogoda dla bogaczy — cz. II odc. XV — film fab. TV USA. 21.05 XIX Festiwal Piosenki Żołnierskiej Kołobrzeg 80 — Koncert Premier. 22.35 Blisko i daleko — pr. społ. 23.05 Dziennik. 23.20 Cień przeszłości — fr. dramat obycz.

(jz)

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 4 VII** — 8.05 Film ser. 18.30 P. nożna. Dynamo (Tbilisi) — Dynamo (Kijów). 20.35 Koncert.

**Sobota 5 VII** — 13.45 Film ser. 15.30 Nie do wiary. 16.30 Balet. 17.35 Filmy anim. 18.50 Spektakl. 21.55 Koncert.

**Niedziela 6 VII** — 8.05 Koncert. 13.00 Film ser. 15.45 Klub podróży. 16.45 Film anim. 17.00 Panorama międzynar. 17.45 Koncert. 18.35 Film fab. 20.35 Koncert. 21.10 Międzynar. zawody lekkoatlet.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Gorączka sobotniej nocy — USA 8—9. Ukochana żona — wł. 10—11. Aria dla atlety — pol. 12—13.

**Bielsk Podl.** Bukareszt godz. 21.30 — rum. 9—10. Ucieczka na Atenę — ang. 11—13.

**Czyże** Okupacja w 26 obrazach — jug. Przygody Picassa — szwedz. 9—13.

**Gródek** Szansa — pol. 12—13.

**Hajnówka** Lot nad kukułczym gniazdem — USA 8. Milczący wspólnik — kanad. 11. Wolne chwile — pol. 12—13.

**Michałowo** Mistrz kierownicy ucieka — USA 8—9. Odbicie światła — czes. 12—13.

**Mielnik** Nieme kino — USA 9. Akwarele — pol. 12—13.

**Milejczyce** Dyrygent — pol. Aż rozłączy nas śmierć — NRD 9—13.

**Narew** Wielki samotnik — rum. Sekret Enigmy — pol. 9—13.

**Narewka** Basen — buł. Szał — ang. 9—13.

**Nurzec** Niezawodni przyjaciele — rum. 8—9. Na cichej stacyjce — węg. 10—11.

**Orla** Ostatni z Fleksnerów — norw. Colargol i cudowna walizka — pol. 9—13.

**Rajsk** Zerwane cumy — pol. Edukacja specjalna — jug. 9—13.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, хадзіла я з Генікам, кахала яго і не думала, што калі-колеч мне спадабаецца хто іншы. Мы разам вучыліся ў ліцэі і ў гэтым годзе ліцэй закончылі. Генік паступіў у вуз, а я буду вучыцца ў паматуральнай школе. Генік мне падабаўся, ён высокі, прыгожы, сімпатычны хлопец. А ўжо маме маёй то ён вельмі падабаўся. Але вось, калі Генік рыхтаваўся да экзаменаў, мы спатыкаліся нячаста, і я, маючы свабодны час, хадзіла з сяброўкамі ў кіно, кавярню. І аднойчы ў кавярні я пазнаёмілася з адным мужчынам. Ён старэйшы намнога за мяне, але так цікава гаворыць, такі вясёлы. Ну і пачалі мы спатыкацца. Мне новы „ухажор“ штораз больш падабаецца, але я даведалася ад знаёмай, што ён разведзены. Ужо другую жонку пакінуў. З гэтай апошняй і дзіцё ў яго ёсць. Гэта мяне засмуціла. Ён жа мне аб гэтым не сказаў. Але калі я яму сказала гэта, ён прызнаўся, але падкрэсліў, што ён жа вольны, развод з жонкай мае, а дзіцё пры жонцы. Зрэшты, і ты, Сэрцайка, пісала, што разведзены — не значыць дрэнны, проста ў жыцці не павязло. Каб ужо не Генік, то і не зважала б на гэта. А Генік кахае мяне і мае пачуцці да яго яшчэ не астылі. Калі нядаўна прыйшоў да мяне, мы правялі вечар вельмі прыемна. А з гэтым другім, то так тайком спатыкаюся, баюся, каб не даведалася мама, бо бяды будзе.

Аля з Б.

**Аля!** Маладым дзяўчатам такія старэйшыя „круцялі“ патрапяць надта галаву марочыць хітрыкамі, прыгожымі слоўцамі. Тое, што не кожны разведзены значыць дрэнны, гэта праўда. Нават найбольш парадачнаму і добраму чалавеку можа гэта здарыцца. Але калі ён і другую пакідае, да таго з дзіцём, аб чым ты даведваешся ад кагосьці, гэта ўжо справа падазроная і рызыкаваць на трэцюю яго жонку небяспечна. Ды ты і сама кажаш, што не астылі твае пачуцці да Геніка, толькі вось праз гэтага яны крыху прыгаслі. А Генік жа твой аднагодак, хлопец вольны, салідны, студэнт. Дык падумай сама...

**Сэрцайка**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: У час рэгулявання ўласнасці гаспадарак бацька перапісаў гаспадарку на сына, засцерагаючы для сябе пажыццёвае ўтрыманне. Гэта было ў 1975 годзе. Вядома, што калі бацька перадае гаспадарку сыну, атрымоўвае ад дзяржавы пенсію. Ці гэта пенсія прыслугоўвае тым, што перадалі дзецям гаспадаркі перад увядзеннем новага закону?

АДКАЗ: Новы закон аб пенсіях і іншых належнасцях для сялян і іх сямей абавязвае ад 1.І.1978 года. Паводле гэтага закону селяніну, які перадае бясплатна гаспадарку дзецям або ўнукам, прыслугоўвае пенсія. Аднак, каб атрымаць пенсію, неабходны ўмовы: пенсіённы ўзрост або інваліднасць, прадукцыя і продаж грамадскім установам сельскагаспадарчых прадуктаў не менш, чым на 15 тысяч злотых у год на працягу апошніх пяці год, аплочванне адпаведных узносаў, незніжэнне вартасці гаспадаркі на працягу апошніх пяці год. Пры перадачы гаспадарак перад 1.1.1978 года ніякіх умоў не ставілі, пенсія гэткім сялянам па новаму закону не належыцца.

Аднак закон прадбачыць сітуацыі, у якіх сялянам, якім споўнілася: мужчыне — 65, а жанчыне — 60 год, або з'яўляюцца інвалідамі I або II групы і перадалі перад 1.1.1978 года бясплатна гаспадарку дзецям або ўнукам, прызнаецца належнасць — 750 зл. у месяц, а калі жывуць бацька і маці — 1000 зл. у месяц. Гэта належнасць прызнаецца толькі тым бацькам, якія не маюць сталай крыніцы даходаў, як, напрыклад, выконванне рамяства, або атрымоўванне пенсіі на падставе працы. Гэткая належнасць будзе выплачвацца ад 1 ліпеня 1980 года. Выплата належнасці не звальняе дзяцей ад абавязку пажыццёвага ўтрымання бацькоў.





### БУГ У АГНІ

# МОЙ ШКІЛЕТ — 38 кг

*„...МОЙ ШКІЛЕТ ВАЖЫЎ 38 КІЛАГРАМАЎ...“*

Гэтыя словы знайшоў я ў лісце даўнейшага малодшага лейтэнанта Івана Шыбакова, у тым лісце, у якім ён апісвае бадзянні па гітлераўскіх лагерах смерці.

Дарослы мужчына і... 38 кілаграмаў вагі... І што тут больш трэба дабаўляць.

У звычайнай людской мове не хапае проста слоў, каб апісаць усё гэта. Дык і я замаўчу. Хай за мяне гавораць дакументы, на якія я натрапіў, шукаючы матэрыялу, каб папоўніць расказ Шыбакова. Гэта рэдкія здымкі, з якіх кожны можа быць вялікім актам абвінавачання. Вось здымак першы. Гэта недзе на Беларусі. Лета, трава, кусты. На траве — голая, збяшчэшчаная, маладзенькая яшчэ дзяўчына, а над ёю з пісталетам... ды навошта словы... хопіць паглядзець.

Так было і так магло быць усюды, у кожным куточку нашай шматпакутнай зямлі. Два выпадкі збяшчэшчання жанчын здарыліся і ў маёй роднай вёсцы. Адна з іх і да сённяшняга дня не вярнулася да свайго розуму.

Здымак другі: савецкі баец прывязаны да стаўба, прыгавораны да пакарання галоднай смерцю. Гэта ў лагеры для ваеннапалонных у Барку пад Кракавам. За ім пад адкрытым небам, па снезе, пазбіваліся ў кучкі, каб было хаця крыху цяплей, іншыя палонныя. А хто меў яшчэ сілы, голымі рукамі рыў у зямлі яму, як звер, як крот, каб неяк перацярпець... Вось як гэты салдат, але ці ўдалося яму?





*„Лучше смерть, чем фашистский плен!“* напісаў на сцяне карнага бункера *„хронический беглец“* **Ласица Иван Г.** Гэта ў Ламбінавіцах, якія гітлераўцы называлі Лямсдоф, на Апольшчыне, дзе ў гадах 1941-1943 знаходзілася звыш 120 тысяч савецкіх ваеннапалонных.

Таксама, можа яшчэ і горш, цярпелі ваеннапалонныя і ў іншых лагерах, у тым ліку і ў Сухазебрах, куды папаў Іван Шыбакоў. Ён успамінае:

*„Мяне ды іншых хворых крывавым паносам гітлераўцы загадалі пагрузіць на сялянскія падводы і адправілі ў іншы лагер-ізалятар, які знаходзіўся недалёка ад папярэдняга. Там хворыя ляжалі ў палатках і бараках. Мяне закінулі ў невялічкі шчытавы барак. Там я сустрэўся з санітарам, даўнейшым фельчарам ветэрынарыі. Яго прозвішча я, на жаль, забыў, але памятаю, што быў гэта малады хлопец, з Горкаўскай вобласці, значыць, мой зямляк. Ён даведаўся аб гэтым і тым болей пачаў апекавацца мною. Падымаў мяне з бярлогі, карміў, расстараўся для мяне шынель, гімнасцёрку і шапку, бо дагэтуль знаходзіўся я толькі ў адной нацельнай кашулі...“*

Пра далейшы лёс Івана Шыбакова мы даведаемся праз тыдзень, бо і ён тады, у Сухазебрах, не ведаў, што чакаюць яго яшчэ горшыя пакуты.

**Віктар Рудчык**







ЯК ЗВАРЫШ, ТАК І З'ЯСІ

### КАЛДУНЫ

На 30 дэкаў мукі трэба ўзяць 20 дэкаў нятлустай ялавічыны, 5 дэкаў лою, цыбуліну, соль, перац, зубок часнаку, ваду, можна дадаць майранак.

Ялавічыну (або бараніну) ачысціць дакладна ад плёнак, пасячы вострым нажом на дошцы або прапусціць праз мясарубку разам з лоем ды цыбуляй і часнаком. Да змеленага мяса дадаць 2 лыжкі халоднай вады і вельмі дакладна размяшаць, а ў канцы дадаць соль, перац і майранак. Замясіць не надта цвёрдае цеста, раскатаць тоненькі блін. Малой шклянкай выразаць кружкі, раскладаць на іх шарыкі фаршу, а пасля вельмі добра зляпіць. Калдуны зварыць у вялікай колькасці пасоленай вады. Адцадзіўшы, падаваць іх, залітыя гарачым булёнам. Падрыхтаваныя калдуны, калі мы не маем намеру падаць іх зараз жа, можна палажыць сырымі на падносе, накрыць шчыльна фальгой і замарозіць у халадзільніку, а пасля, замарожаныя, палажыць у кіпень. Нельга падаграваць звараныя раней калдуны.

### ДРОЖДЖАВЫЯ ПІРАЖКІ

На 40 дэкаў мукі бярэм 4 дэкі дражджэй, малако, лыжачку цукру, жаўток, 2-3 лыжкі алею, соль. На фарш бярэм: 30 дэкаў капусты, некалькі сушаных грыбоў або 10 дэкаў пячурыц, яечка, цыбулю, лыжку тлушчу, соль, перац.

З дражджэй падрыхтаваць росчын, а калі вырасце, дадаць у муку разам з жаўткамі, алеем і соллю. Даліць столькі малака, каб атрымалася даволі густое цеста, і добра вымясіць, паставіць, каб вырасла. Звараную капусту (разам з сушанымі грыбамі) адцадзіць і пасячы на дошцы. Калі замест сушаных грыбоў дадаем пячурыцы, трэба іх, памыўшы, вельмі добра нарэзаць і падсмажыць разам з цыбуляй. Крутое яечка дробна пасячы, дадаць да капусты. Фарш заправіць па смаку, дадаць сыры бялок, што застаўся ад цеста. Гатовы фарш крыху падагрэць. Вырасшае цеста раскатаць на дошцы, выразаць даволі вялікія кружкі або парэзаць цеста вострым нажом на квадраты. Разлажыць фарш і старанна зляпіць піражкі, адлажыць іх на мінут 15, каб цеста крыху падрасло. Разагрэць вялікую колькасць тлушчу, так, як на смажэнне пончыкаў. Класці піражкі ў гарачы тлушч. Спачатку смажыць піражкі пад крышкай, а калі ніз стане румяны, зняць крышку, перавярнуць піражкі на другі бок і дасмажыць. Есці піражкі трэба гарачымі. Гэтыя піражкі можна падаграваць, кладучы іх на бляшку і ставячы ў гарачую духоўку.

**Гаспадыня**

## ВЕР — НЕ ВЕР

Паважаны Астрон, сніцца мне, што я іду па белай дошцы, а перада мной ідуць тры вялікія кролікі. Каля іх ідзе маленькі кролік ці мышка, забылася. І вось гэты кролік ці мышка адыйшла ад іх і ўцякла. Мы яе клікалі, але яна ніякай увагі на гэта не звяртала і ўцякла ў дзірку пад падлогу. Я жыву з дарослымі ўнукамі, іх трое, а праўнучку 6 месяцаў. Будзь так добры, Астроне, і разгадай мой сон.

Другі сон: Сяджу я ў старым паліто, дзе-нідзе яно падранае, я думаю, што трэба купіць новае, нягледзячы на тое, што я старая, і трэба падрыхтаваць 2 тысячы на пакупку.

Чытачка з Белавежы

Астронку, я вельмі ўдзячна за адказ на мой сон. А цяпер прыснілася мне, што хтосьці забраў маю новую прыгожую куртку. Я мела надзею, што яе знайду, але прачнулася.

Марыся

**Чытачка з Белавежы!** Твае сны супярэчаць адзін другому. Калі ў другім сне табе здавалася, што ты сядзіш у старым падраным паліто, дык абазначала б гэта, што спадарожнічае табе ў жыцці недахоп грошай, нейкія нястачы, а ты ўсё ж імкнешся змяніць нешта на лепшае. Першы ж твой сон сведчыць аб нейкай знаходцы ці прыбытку. За гэта гавораць тыя тры вялікія кролікі, якія ішлі перад табой па белай дошцы. Той маленькі кролік у постаці мышкі мог бы сведчыць аб тым, што знойдуцца ў цябе нейкія зайздросныя сябры, але шкоды яны табе не прынясуць.

**Марыся!** А ты напэўна нешта знойдзеш.

**Астрон**

# ТРЫБУНА чытачоў

## ПЁТР НЕСЦЯРУК, ГАСПАДАР

Пётр Несцярук з Чэхаў Арлянскіх Дубіцкай гміны гэта добры, дбайны і кемлівы гаспадар. Мае ўласны трактар, усе сельскагаспадарчыя машыны і прылады, як снопавязалка, касілка, бульбакапалка, сеўнік, розныя плугі, бароны, культыватар. Многа прадае дзяржаве збожжа, малака і мяса. Дасканала пабудаваны, усё па-сучаснаму. Сваёй зямлі не так і багата мае, аднак могуць яму пазайздросціць тыя, якія маюць больш. Зямля ў Несцерука дагледжана і штогод дае добрыя ўраджаі. Гаспадар не шкадуе ёй мінеральных угнаенняў і ўмела іх прымяняе. Мае сем кароў, многа гадуе свіней.

Не так даўно купіў сабе малацільны агрэгат і стаў многім сялянам малаціць збожжа. Не толькі ў Чэхах Арлянскіх, але і па чужых вёсках малоцяць Несцеруковай машынай, бо добра яна дагледжана. Таксама трактар яго рэдка мае перадышку, бо Несцярук не шкадуе людзям сваёй дапамогі. Жыхары вёскі паважаюць свайго аднавяскоўца так. як і яго старога бацьку Івана, які яшчэ пры санацыі патрапіў па-сучаснаму гаспадарыць.

**М. Панфілюк**

## РАСПАЧАЛАСЯ ПРАЦА

Распачалося вялікае ворыва ў Кназазах на меліяраваных пашах ды сенажацях. Зааралі плошчу ў 10 га і абсеялі травамі. Усюды парадак.

**Міхал Кірылюк**

(Працяг са стар. 5)

## ЦАЛАВАЦЬ ЦІ НЕ ЦАЛАВАЦЬ?

дзецца яна ад нашых дзядоў і прадзедаў. І не чуў я, каб хтосьці памёр ад таго, што цалаваў жанчын у руку. І тут я згодзен з „Агатай“. Ніхто нікога не прымушае. Хочаш цалуй, хочаш не цалуй. І жанчыны не павінны крыўдзіцца на тых, хто іх у руку не цалуе. Не справа ж цалавання ў ручку тут важная, але справа культуры і выхавання ў агульным маштабе. Калі мы „цмокаем“ нейкую знаёмую, прыкладна, жонку свайго начальніка, а думаем: „і ты такая ж шэльма, як і ён“ (а ў сапраўднасці яна цудоўная жанчына), ці гэта сумленна? Толькі ад нас саміх, ад нашага выхавання залежыць, пацалуем, ці не пацалуем мы гэтую белую і менш белую ручку. А пашана жанчыне заўсёды належыцца. Трэба аб гэтым памятаць, паважаныя мужчыны!

**Ул. Сідарук**




### Я ЗА МЯЖОЙ

*У ліпені ў мінулым годзе*
*Прыйшлось пакінуць дом, сям'ю,*
*На два гады прыбыць службова*
*Сюды, на чэшскую зямлю.*

*Жыву тут добра ад пачатку,*
*Няма ніякіх неудач,*
*Жыву у горадзе Кадані,*
*І час ляціць мне тут як бач.*

*Сумна аднак за родным краем,*
*Думкі найбольш бягуць туды,*
*Дзе маё роднае Падляшша,*
*Дзе жыў ў дзіцячыя гады.*

*Нічога я цяпер не чую*
*Пра свой любімы родны кут,*
*Ніхто мне пра яго не кажа*
*І „Нівы“ не чытаю тут.*

*Па зіме доўгай і марознай*
*Вясна прыйшла, з вясною май,*
*Сады ў Кадані расцвіліся,*
*А мне ў вачах мой родны край.*

*Ну, будзь здароў, куток радзімы,*
*Прымі прывет сардэчны мой*
*І ведай ты — я за мяжою,*
*А думкамі жыву з табой!*

**В. Данілюк,**
Чэхаславакія
Май, 1980 г.

## СЯБРОЎСКАЯ СУСТРЭЧА

У ходзе падрыхтоўкі да II з'езда выпускнікоў і выхаванкаў гімназіі і ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску Падляшскім у клубе БГКТ у Варшаве адбылася сяброўская сустрэча мясцовай групы выхадцаў ліцэя. Сабраныя паслухалі інфармацыю аб падрыхтоўцы да з'езда. Па традыцыі ўжо была прадэкламавана паэма Янкі Купалы „Курган“ (якая стала проста сімвалам беларускага ліцэя ў Бельску), вершы Віктара Шведа. Песні першых пасляваенных гадоў дапоўнілі гэты багаты суботні вечар. Сяброўскага настрою прыдалі ўспаміны аб незабыўных і самых яркіх момантах з жыцця школы. Успаміны прадстаўнікоў розных пакаленняў паказалі, што белліцэй у Бельску добра падрыхтаваў сваіх выпускнікоў на дарогу ў дарослае жыццё.

**ім**

## Я — НАЧНЫ ВАРТАЎНІК

Я такі, як усе вясковыя людзі. А распарадак жыцця мой не такі. Калі ўсе спяць, я працую. Калі ўсе працуюць, я сплю. Вы скажаце, што мо я злодзей? Не, даражэнькія! Я не злодзей. Ад такіх спраў барані мяне Бог!

Скажу вам проста, хто я. Я — начны вартаўнік! Што зрабіць, калі са здароўем кепска... Тады наймаюся ў вёскі. Бо трэба неяк пражыць. Скажаце: о, вартаваць то кепска. А я да гэтага прывык.

Куточак кожны ў вёсцы знаю.
І колькі крокаў з канца ў канец,
Бо добры вартаўнік пільнуе, а не спіць,
Каб ад бяды змог зберагчы ён вёску.
Не раз прыгода прыдарыцца,
Што не асмелюсь паўтарыць.
Не раз я чую, як дзяўчыне хлопец
вясною прысягаў,
А потым выехаў, і здрадзіў, і прапаў.
Усіх ўжо знаю, хто калі спаць
кладзецца
І хто найпершым зранку устае.
А калі траплю прыпадкова ў госці,
То і мне здаецца,
Што я багаты, і так, як я,
Ніхто больш ў вёсцы не жыве.

**Г. Мароз**

## ДВА КАНЦЭРТЫ

Чаромхаўскія чыгуначнікі маглі паглядзець у чэрвені два цікавыя канцэрты вакальна-інструментальных калектываў. Першы быў арганізаваны гміннымі ўладамі з нагоды 35 гадавіны ВОП. Выступіў варшаўскі калектыў „Граніца“, усім жыхарам Чаромхі добра вядомы. У другім канцэрце, які называўся „Усмешка за ўсмешку“, выступілі вядомыя артысты варшаўскага радыё і тэлебачання з удзелам артыстаў з Балгарыі і Сенегала. Прафкомы чыгуначнікаў купілі сваім працаўнікам білеты. Уражанні з канцэрта вялікія. На другі дзень людзі толькі аб гэтым і гаварылі.

**(ус)**

## НЯМА ІНІЦЫЯТЫВЫ

Каля вёскі Рутка Дубіцкай гміны, на дарозе, якая вядзе да Дубіч Царкоўных, ёсць такія месцы, што амаль немагчыма тут праехаць, настолькі дарога разбітая. Ніхто з тутэйшых ужо не помніць, калі хто гэтую дарогу рамантаваў. Такая самая сітуацыя і на дарозе з другога боку вёскі, каля мосціка. Тут таксама вельмі лёгка скрунуць шыю. Трэба, каб у самой вёсцы нарадзілася ініцыятыва, якую падтрымала б гміна, і дарогу супольнымі сіламі вырамантавалі б.

**М. Панфілюк**

## ФІЛЬМ, ЯКІ ВАРТА ПАГЛЯДЗЕЦЬ

У маі на экранах польскіх кінатэатраў паявіўся новы беларускі мастацкі фільм „Сустрэча ў канцы зімы“. Паставіў яго ў 1978 г. у кінастудыі „Беларусьфільм“ рэжысёр старэйшага пакалення (яму зараз 68 гадоў) Язэп Шульман. У Польшчы вядомы яго іншы фільм — „Паручнік Марынін“.

Фільм апавядае аб немаладой ужо жанчыне, якая працуе сакратаром рэдакцыі раённага дзённіка. З выгляду строгая і сухая, не выклікае ў нікога сімпатыі, ніхто з ёй не прабуе ўстанавіць адносіны, не хоча зразумець, чаму яна такая. А прычыны гэтага — у мінулых трагічных ваенных гадах, якія пакінулі трывалы след на цэлым яе жыцці. Якой сапраўды была Анна Губарава, даведаюцца ўсе тыя, з кім яна працавала, толькі выпадкова ў апошнія дні перад яе смерцю. Запозна, каб памагчы ёй знайсці радасць жыцця.

Сцэнарый фільма напісаў Уладзімір Гусакоў. Здымкі выканаў Фелікс Кучар. Музыка Веніяміна Баснера. Галоўную ролю выконвае Ларыса Лужына. Фільм, на жаль, рэалізаваны на чорна-белай плёнцы.

**П. Байко**

## ХТО Ў ГАЙНАЎЦЫ ПАДСЯКАЕ ДРЭВЫ?

Мінула толькі два гады, як я пісаў на старонках „Нівы“ аб тым, што нейкія вандалы падсякаюць сосны, якія растуць побач чыгуначнай дарогі, калі ўязджаць у Гайнаўку ад Белавежы. І вось зноў дзеецца тое ж самае. На дрэвах, а ёсць іх тут 13, паявіліся свежыя раны. Хто гэта робіць? Невядома. Аднак, думаецца мне, што не абыйшлося тут без удзелу рук нейкага жыхара бліжэйшых дамоў. Варта, каб на гэты раз гайнаўскія гарадскія ўлады і міліцыя больш энергічна заняліся справай, пашукалі злачынцаў і прыкладна іх пакаралі. Добра было б таксама, каб пры нагодзе ліквідавалі звалку смецця, якую хтосьці ў гэтым ляску насыпаў.

Тэкст і фота
**П. Байко**



## ПАЖАР

Была сярэдзіна дня, калі ў вёсцы Бандары ўзнік пажар. Хутка прыехалі рабочыя з будовы недалёкага вадасховішча, пажарная каманда з Бандароў, Лукі, Юшкавага Груда і Міхалова. Пажарнікі адважна ўзяліся за работу, і таму пажар быў хутка ліквідаваны. Не дапусцілі агню да другіх будынкаў, якія стаялі зусім блізка. Ад'язджаючы, пажарнікі жадалі людзям, каб пажару ў іх не было больш ніколі.

Пры нагодзе варта сказаць, што ёсць пастанова, каб у кожнага солтыса ў вёсцы быў у хаце тэлефон. У выпадку, напрыклад, пажару ці хваробы ёсць адкуль пазваніць. Нашаму солтысу не правялі тэлефону, бо тэлефон быў у школе і ў краме. Дзіўна гэта: школа ці крама закрываецца і, калі трэба выклікаць хуткую дапамогу, трэба бегчы ў трэцюю вёску. Гэта добрая думка, каб у кожнага солтыса ў кожнай вёсцы быў тэлефон. І трэба гэтак зрабіць і ў Бандарах Міхалоўскай гміны.

**Ф. Хлябіч**

## КАБ ПАДЦЯГНУЦЦА

Маючы вольную хвіліну, захацелася мне пагартаць крышачку „Ніву“. Асабліва зацікавіла мяне справа колькасці публікацый маіх сяброў-карэспандэнтаў.. І што я прыкмеціў? У параўнанні з мінулым годам колькасць артыкулаў і інфармацый, напісаных Авангардам „Нівы“, паменшылася. Не даб'емся новага рэкорду, як у мінулым годзе (прыпамінаю, першы карэспандэнт у мінулым годзе — 128 публікацый). І ў мяне колькасць паменшылася. Толькі Дзядзька Квас з Янкам Кірызюком падцягнуліся надта. Брава ім!

Пачалося лета. Пачалася праца ў полі. Ва ўсіх паменшала часу. І таму, пэўна, некаторыя абмежавалі сваё супрацоўніцтва з рэдакцыяй. Барані Божа, не рабіце гэтага! Я сам рашыў моцна падцягнуцца і стрымаю слова, як сказаў Дзядзька Квас. Найважнейшае — быць заўсёды актыўным.

Пачуў я выпадкова ў рэдакцыі скаргу — не скаргу, сумныя словы, што так дасканала пішучы Грыша Мароз усумніўся ў сваіх магчымасцях і сваёй прыдатнасці як карэспандэнта. Сумна стала і мне. Не паверыў і зараз не веру, што хочаш перастаць пісаць, Грыша. Мы з табою знаёмы даўным-даўно. І як жа я ўцешыўся, калі сустрэўся з табой у „Ніве“ на з'ездзе карэспандэнтаў. Думаю, што і твой крызіс пройдзе. І надалей мы будзем сябраваць як калегі па пяру.

**Ул. Сідарук**

## У АДКАЗ НА НАШУ КРЫТЫКУ

**Да публікацыі: „65 ПРАЦЭНТАЎ БРАКАЎ“, „Ніва“ № 9 (1253) ад 2.III.80 г.**

**Адказвае: WOJEWÓDZKI ZWIĄZEK SPÓŁDZIELNI ROLNICZYCH ZAKŁAD ZAOPATRZENIA ROLNICTWA W BIAŁYMSTOKU.**

W nawiązaniu do notatki prasowej pt „65 procent braków" uprzejmie zawiadamiamy, że opisane w artykule zdarzenie miało miejsce rzeczywiście.

Fabryka Maszyn Rolniczych „Agromet-Inofama" w Inowrocławiu wysłała partię parników po sprawdzeniu jej przez Państwową Inspekcję Techniczną Rolnictwa. Pracownicy Składnicy Maszyn Rolniczych w Hajnówce dokonali bardzo dokładnego odbioru jakościowego i stwierdzili szereg usterek, które w sposób zasadniczy utrudniają eksploatację parników.

Natychmiast zawiadomiono producenta celem dokonania wymiany parników lub też dokonania przeceny. Niezależnie od tego naliczono kary umowne zgodnie z OWUiS za dostarczenie towaru niewłaściwej jakości.

Dziwimy się tylko, że wyspecjalizowani pracownicy PITR odpowiedzialni za odbiór jakościowy bezpośrednio w fabryce nie zauważyli bardzo wyraźnych usterek.

Reasumując powyższe, uważamy, że pracownicy SMR w Hajnówce właściwie wywiązują się ze swych obowiązków i nie dopuszczają do sprzedaży towarów złej jakości po normalnych cenach.

Z-ca Dyrektora ZZR
**(M. Korneluk)**

**Да публікацыі „НАША ПОШТА“, „Ніва“ № 13 (1257) ад 30 III 80 г.**

**Адказвае: URZĄD GMINY W ORLI.**

W odpowiedzi na notatkę 13 (1257) z dnia 30 marca 1980 r. dot. niewłaściwego oświetlenia ulicy we wsi Koszele, Urząd Gminy w Orli informuje, że zgodnie z wytycznymi Głównego Inspektoratu Gospodarki Energetycznej w Warszawie z października 1979 r. w sprawie ograniczenia poboru mocy i energii elektrycznej, oświetlenie ulic jest zmniejszone do 30% zainstalowanych lamp oświetleniowych.

Ze względu jednak na możliwość zużycia się żarówek ponad ustalony normatyw — Urząd Gminy kopią niniejszego pisma zwrócił się do Zakładu Energetycznego w Bielsku Podlaskim o dokonanie kontroli funkcjonowania całości oświetlenia we wsi Koszele.

Z up. Naczelnika Gminy
**Włodzimierz Jakimowicz**
Inspektor d/s Handlu Usług
i Gospodarki Komunalnej




**Ул. Гарустовіч,** Гайнаўка. „Прачытаў я ў 20 нумары „Нівы“ свой артыкул пра Скупава. Быў задаволены. Сёння хачу з вамі падзяліцца адной прыемнай навіной. Ёсць у Дубінах кіраўнічка беларускай школы Вольга Гарустовіч, жонка сына майго брата, асоба з вышэйшай адукацыяй. Па справах беларускай мовы я магу да яе звярнуцца, як будзе патрэба. Дзякую сардэчна за прысланыя дзве кнігі „Слоўнікаў беларускай мовы“. Больш мне нічога не трэба, я буду імі карыстацца. Вы просіце напісаць, якія ў мяне планы, аб чым хачу пісаць. Напішу вам артыкул з цыкла „Як калісь было“ па апавяданні дзеда Раманчука і іншых старых людзей, а таксама і са свайго жыцця. Абы толькі здароўе служыла. Як любіў казаць дзед Раманчук: „Ладна ладна, дзеткі, дайце толькі срок, будзе вам і белка, будзе і свісток“. Прапаную дабрацца ў Дубіны і прыехаць з Вольгай Гарустовіч да мяне ў госці.“

Дзякуем. Напэўна скарыстаем!

**Аляксандр Лукашук,** Вроцлаў. Ёсць надта цікавыя думкі ў вашым пісьме. Шкада, што не хочаце згадзіцца на яго скарочаную публікацыю. І дасканала па-беларуску пішаце. Маем надзею, што наша з вамі знаёмства не закончыцца на адным гэтым пісьме.

